**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ЭКЗАРХ УСЯЛЕНСКАГА ПАТРЫЯРХА У БЕЛАРУСКАЙ ПАРАХВІІ

У нядзелю 30-га жнівеня беларуская праваслаўная парахвія сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Лёндане годна спатыкала Экзарха Ўсяленскага Патрыярха Канстантынопальскага Ўладыку Архіепіскапа Тэатэрыйскага й Вялікай Брытаніі Мэтода. Уладыка Мэтод адслужыў архірэйскую літургію ў суслужэньні зь мітрафорным пратаярэем а. Вячаславам Тарановічам (настаяцель парахвіі), а. Браўнам (сакратар Уладыкі Мэтода), пратадыяканам Уладзімерам Марозам (з парахвіі сьв. Еўфрасіньні) і дыяканам Уладзімерам Зайком (зь Лідсу ў Ёркшыры). Прыгожа сьпяваў добра ўкамплектаваны хор пад умелым кіраўніцтвам дырыгенткі сп-ні Марыі Галубінкі.

У сваёй пропаведзі Ўладыка Мэтод прывітаў усіх прыхаджанаў ды выразіў сваё задаваленьне з удзелу ў беларускай праваслаўнай багаслужбе.

Уладыка Мэтод добра азнаёмлены з нашымі рэлігійнымі праблемамі, з нашым змаганьнем за нацыянальнае вызваленьне. Ён заклікаў Беларусаў гуртавацца вакол свае Праваслаўнае Царквы і ўзгадоўваць сваіх дзяцей у беларускім нацыянальным духу ды згодна з вучэньнем Праваслаўнае Царквы. Ён абяцаў мець беларускі прыход пад сваёй асаблівай апекай. Пропаведзь Уладыкі з ангельскае мовы ў беларускую перакладаў пратадыякан Уладзімер Мароз. Настаяцель парахвіі а. Вячаслаў у сваёй пропаведзі пабеларуску падзякаваў Уладыку Мэтоду за ўдзел у літургіі ды за дапамогу нашай парахвіі й апеку над ёй.

Па багаслужбе адбылося ў царкоўнай залі, наладжанае жанчынамі прыходу, прыняцьце. Вітаў Уладыку Мэтода ў залі традыцыйным хлебам-сольлю ды прамоваю ў ангельскай мове старшыня царкоўнае рады сп. М. Дзейка. Між іншага, сп. Дзейка зазначыў, што калі дагэтуль у каго былі якія-небудзь сумлевы што да беларускасьці нашае царквы, дык па выслуханьні пропаведзі Ўладыкі гэтыя сумлевы павінны адпасьці.

Ад імя Беларусаў Ёркшыру вітаў Уладыку прыгожай і патрыятычнай прамовай сп. Гатковіч зь Лідсу.

Уладыка Мэтод правёў большую частку папаўдня на прыняцьці, гутарыў із шмат якімі вернікамі ды вельмі цікавіўся беларускімі народнымі песьнямі, якія ўдзельнікі прыняцьця сьпявалі ў ягоны гонар. Вельмі яму спадабаўся рэлігійны гімн „Магутны Божа", сьпяваны царкоўным хорам у канцы багаслужбы (шкада толькі, што хор выконвае ня ўсе тры, а толькі адну зваротку гэтай прыгожай малітвы). На адыход Уладыкі Мэтода хор прасьпяваў яму „Эйс Полла Эці Дэспота".

Уладыка Мэтод добра азнаёмлены з нашымі спэцыфічнымі абставінамі, як рэлігійнымі гэтак і нацыянальнымі. Летась ён прыймаў у сябе Беларусаў аж тры разы. Раз была ў яго дэлегацыя ад парахвіі сьв. Еўфрасіньні, калі й былі ўзгодненыя ягоныя адведзіны парахвіі. 10-га лютага 1980 г. ён прыймаў у сябе на аўдыенцыі мітрафорнага пратаярэя а. Я. Пякарскага з БАПЦ, а 6-га лістапада 1980 г. — другі раз а. Я. Пякарскага з сакратаром царкоўнай рады БАПЦ у Лёндане сп. А. Здanковічам.

Парахвія сьв. Еўфрасіньні цяпер падлягае юрысдыкцыі Епіскапа Мацьвея Сямашкі. З прычыны пажылога веку Епіскапа Мацьвея, ягонага дрэннага здароўя ды асабліва ягонага няпрыхільнага стаўленьня да ўсяго беларускага, было-б вельмі пажадана, каб парахвія сьв. Еўфрасіньні перайшла пад непасрэдную юрысдыкцыю Архіепіскапа Мэтода.

**П. Н.**

# „ПАН БОГ РАЗУМЕЕ ПАБЕЛАРУСКУ"

У інфармацыйным бюлетэні незалежнага прафсаюзу „Салідарнасьць", што выходзіць у Беластоку, у нумары 17-м з 24. III. 1981 г., быў зьмешчаны артыкул пад заг. „Ці пан Бог не разумее пабеларуску?" Аўтар артыкулу, жыхар Беластоку й беларускі пісьменьнік Сакрат Яновіч, скарыстаў з заведзенае ў бюлетэні рубрыкі „На маю думку".

„ ‚На маю думку', — тлумачыць рэдакцыя бюлетэню, — гэта загаловак рубрыкі, якую мы ўводзім на старонкі ‚Інфармацыйнага Бюлетэню'. Мы хочам зьмяшчаць у ёй пагляды, праекты, абмяркоўваньні, што выходзяць паза вузка зразуметую прафсаюзную праблематыку, а датычаць да шырэйшых праблемаў: грамадзкіх, звычаёвых, культурных, рэлігійных нашага раёну".

Для Сакрата Юновіча, пісьменьніка й беларускага культурна-грамадзкага дзеяча ў Польшчы, адна з гэткіх праблемаў — гэта дыскрымінацыя беларускае мовы ў рэлігійным жыцьці ў Польшчы. Пытаньне „Ці пан Бог не разумее пабеларуску?" для Яновіча — рытарычнае; „Бог **разумее** пабеларуску", сьцьвярджае ён далей у сваім артыкуле. Выплывае гэтае пытаньне з парадоксу — відавочнага шмат каму і ў Польшчы і ў савецкай Беларусі — што сучасная беларуская нацыя, ці прынамся тая частка гэтае нацыі, што моліцца Богу, зварачаецца да Ўсявышняга не ў сваёй роднай мове, а праз пасярэдніцтва суседніх моваў: праваслаўныя праз пасярэдніцтва царкоўнаславянскае й расейскае, а каталікі — праз пасярэдніцтва польскае. Выходзіць, што Бог парасейску й папольску разумее, а пабеларуску — не.

Для аўтара артыкулу гэта — недарэчнасьць, якую ён наадрэз адкідае. Артыкул-жа свой ён напісаў для тых, хто гэтае недарэчнасьці ня бачыць, для тых духовых нявольнікаў, для якіх у Яновіча знайшоўся адпаведны й афарызм: „у поўную няволю трапляецца тады, калі трацiцца адчуваньне яе". У гэткай няволі сядзяць яшчэ тыя, хто ня вызбыўся паняцьцяў „польская вера" й „руская вера", што ўсё йшчэ бытуюць і на Беласточчыне і па другім баку польска-савецкае мяжы.

Сакрат Яновіч прыгадвае чытачу беластоцкага „Інфармацыйнага Бюлетэню", што дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэньня XIX-га стагодзьдзя былі каталікамі, што беларускі народ сяньня — народ двух веравызнаньняў. Не зважаючы на гэта, аднак, піша аўтар, каталіцкі Касьцёл на беларускамоўных прасторах Беласточчыны не адчувае ніякае патрэбы лічыцца з культурнай спэцыфікай гэтых прастораў. З асуджэньнем выказваецца аўтар пра тых, хто цураецца свае роднае мовы й сваіх традыцыяў.

„Было-б вельмі важным, на маю думку, — піша Сакрат Яновіч, — каб сьвятары абодвых веравызнаньняў (каталіцкага й праваслаўнага) у сваёй душпастырскай працы пабачылі патрэбу спрыяць умацаваньню й разьвіцьцю беларускае культуры ў нашым раёне".

У падмацаваньне свае прапановы ў дачыненьні да каталіцкае Царквы Сакрат Яновіч пачынае свой артыкул словамі, якімі летась на Каляды Папа Ян Павал II вітаў Беларусаў (пабеларуску): „Дарагія Беларусы! Вясёлых і радасных Калядных Сьвятаў!"

Канчае-ж свой артыкул Сакрат Яновіч цьверджаньнем, што сьвятары, якія адмаўляюцца ад ужываньня беларускае мовы, гэта — кансэрватары, што „сударжна трымаюцца за аджытыя формы, якія трацяць і будуць трацяць пад напорам эманцыпацыі (вызваленьня) людзкіх нізоў і цэлых народаў, што імкнуцца гаварыць пра чалавека собскім голасам".

**Я. З.**

# СТАН КАТАЛІЦТВА НА БЕЛАРУСІ

Польская парыская „Культура" ў нумары 1/388-2/389 зьмясьціла вялікі артыкул нейкага П. Ліды пад заг. „Палякі, Лятувісы, Беларусы". З тэматыкі й стылю гэтага артыкулу можна лёгка здагадацца, што П. Ліда (псэўдонім) — гэта ніхто іншы, як польскі ксёндз, які пад псэўдонімам „Я. Мірскі" даволі шмат пісаў у „Культуры" пра стан каталіцкае Царквы ў Савецкім Саюзе — на Беларусі у Лятуве, Лацьвіі й на Ўкраіне.

Так як і папярэднія ягоныя артыкулы ў „Культуры", хоць і былі яны, як ён сам зазначыў, „апісаньнем асабістых спасьцярогаў і думак людзей, зь якімі гутарыў", гэтак і гэты артыкул нельга назваць аб'ектыўным. З характэрнай бальшыні польскіх ксяндзоў на Беларусі няпрыхільнасьцяй да ўсяго беларускага, ён бачыць цяжкі стан каталіцтва на Беларусі вылучна з глядзішча польскага нацыяналістычнага, а не хрысьціянскага сьвятара.

Нядаўны іншадумец і выдатны лятувіскі паэта Томас Вэнцлава, які жыве цяпер на эміграцыі, зарэагаваў на артыкул П. Ліды лістом у рэдакцыю „Культуры" (№4/391). Вэнцлава вельмі тактоўна пераконліва зьбіў ягоныя хвальшывыя аргумэнты й цьверджаньні, датычныя Лятувы й Сэйнаў (лятувіскае мястэчка ў межах сяньняшняе Польшчы). На пачатку свайго ліста Вэнцлава піcаў: „Пра стан на Беларусі — у мяне наагул няма інфармацыі (нажаль, гэтая прыгожая краіна, як і Альбанія, належыць да найбольш таёмных у Эўропе)". І таму ён закрануў „толькі пару справаў, што датычаць да Лятувы й Сэйнаў".

У тэй частцы артыкулу П. Ліды, у якой ён піша пра стан каталіцтва на Беларусі, яшчэ больш аўтаравае неасьведамленасьці, падтасоўваньня фактаў ды звычайнай хлусьні. Аб безнадзейнай неабазнанасьці П. Ліды сьветчыць ягонае цьверджаньне, што ўсе каталікі на Беларусі — гэта Палякі. Залічыўшы ўсіх Беларусаў-каталікоў у „Палякі", ён беларускую Ашмяншчыну, у якой пераважная бальшыня жыхарства — рыма-каталікі, уважае за „амаль этнічна чыстую польскую частку Віленшчыны". Яму чамусьці нічога ня кажа той факт, што, як ён і сам прызнае, жыхарства гэтае „чыста польскае часткі Віленшчыны" папольску не гаворыць.

Утаесамляючы каталіцызм з польшчынай, П. Ліда абураецца на лятувіскае каталіцкае духавенства, якое слушна ўважае, што польская мова ў касьцёлах на Беларусі павінна быць выэлімінаваная ды замененая мовай вернікаў — беларускай.

Яму, **каталіцкаму** сьвятару, не падабаецца **каталіцкая** душпастырская праца каталіцкага сьвятара Ўладыслава Чарняўскага ў Вішневе (у Валожынскім раёне), якога П. Ліда называе беларускім нацыяналістым толькі таму, што ён вядзе яе ў роднай мове сваіх парахвіянаў — беларускай. І толькі таму Я. Мірскі — П. Ліда бярэ пад сумлеў каталіцкасьць душапастырскае працы кс. Чарняўскага.

Сваім часам у нумары 9/348 „Культуры" (верасень 1976 г.) быў зьмешчаны палемічны артыкул Я. Мірскага пад заг. „Яшчэ аб Беларусі" — адказ на артыкул ніжэй падпісанага пад заг. „Беларусь", што быў выдрукаваны яшчэ ў кастрычніку 1975 году у тэй-жа „Культуры".

Дык вось у гэтым сваім артыкуле, крытыкуючы кс. Ўладыслава Чарняўскага, Я. Мірскі не хаваў свайго задаваленьня, што а. Чарняўскі, быўшы ў Рыме, ня быў высьвечаны ў епіскапы. Паводля Мірскага выглядае, што лепш, каб на Беларусі ня было зусім ніякага рымска-каталіцкага епіскапа, чымся калі-б ім быў Беларус. Вось да чаго даводзіць нацыянальна-шавіністычнае засьляпленьне!

П. Ліда піша, што сяньня на Беларусі існуе ўсяго 87 дзейных касьцёлаў, абслугоўваных 52 ксяндзамі, пераважна старымі й часта хворымі.

Па Другім Ватыканскім Саборы (1962-1965 гг.), калі ў каталіцкай Царкве ў багаслужбах замiж мовы лацінскае былі ўведзеныя жывыя нацыянальныя мовы, на Беларусі, як піша П. Ліда, афіцыйнай літургічнай мовай самі ксяндзы-Палякі на сваю руку зрабілі польскую, а не беларускую. Навет ён прызнае: „Магчыма, гэта адна з найвялікшых зробленых тут памылак. Цяпер яна паволі стаецца прычынай напружаньня й падзелаў на нацыянальным грунце, тымчасам, праўда, у абмежаным абсягу. Вынік гэтага будзе найважнейшай справай для каталіцкае Царквы на гэтых землях. Пытаньнем польскае мовы ў касьцёлах ужо больш як дзесяць гадоў цікавяцца таксама дзяржаўныя ўлады на Беларусі й на Украіне ды вывучаюць пагляды ксяндзоў на магчымае ўвядзеньне ў касьцёлах мовы беларускае або ўкраінскае. Аднак, тымчасам у гэтай справе ніякага ціску няма".

Далей аўтар піша, што польская мова для вялікае часткі паваеннага пакаленьня даваенных ўсходніх ваяводзтваў (г. зн. былых Заходняе Беларусі й Заходняе Украіны) стаецца мала зразумелай. Наймалодшае пакаленьне й каталікі ў былой Усх. Беларусі разумеюць яе вельмі слаба, а літаратурнае польскае мовы блізу зусім ня ведаюць. І затым ксяндзы ў сваіх кантактах вонках касьцёлу карыстаюцца расейскай або беларускай мовай. Гэтага вымагае неабходнасьць, калі яны жадаюць, каб сакрамэнты або сьвятыя тайны (шлюб, хрышчэньне, споведзь і інш) ці рэлігійныя паўчаньні былі зразумелыя. Тым ня менш, П. Ліда ўважае, што ў багаслужбах і казанях павінна быць захаваная й надалей польская мова, бо, быццам-бы, гэтага жадаюць самыя вернікі. Хоць польская мова для іх незразумелая, але, як ён піша, „як і лаціна, яна зрабілася сымбалем рэлігійнае, культурнае й нацыянальнае апрычонасьці, што глыбака засела ў псыхіцы, дзякуючы шматлікім пакутам за яго, перанесеным у далейшай і бліжэйшай мінуўшчыне".

Артыкул П. Ліды ня толькі абурае беларускага чытача, але й наводзіць на сумны роздум. Язэп Пілсудзкі, калі перад Першай сусьветнай вайной быў сацыялістым і выдаваў нелегальна польскую сацыялістычную газэту „Роботнік", напісаў артыкул „Аб польскім імпэрыялізьме" (шмат пазьней артыкул гэты быў зьмешчаны ў зборніку „Польская дэмакратычная думка на працягу стагодзьдзяў"). Пілсудзкі пісаў, што хоць Польшча сама паняволеная й як дзяржава ня існуе, але існуе польскі імпэрыялізм, які праяўляе сябе ў каталіцкай Царкве на лятувіскіх этнаграфічных землях. Епіскапскія курыі (епархіяльныя ўправы), якімі кіруюць епіскапы-Палякі, пісаў Пілсудзкі, сьведама пасылаюць у лятувіскія парахвіі ксяндзоў-Палякоў, а не Лятувісаў. Такі стан рэчаў, як ведама, быў і на беларускіх землях у былой царскай імпэрыі. Гэткую палітыку польскае каталіцкае Царквы Пілсудзкі тады станоўка асуджаў.

Сяньня на Беларусі, дзе няма ніводнага каталіцкага епіскапа, ксяндзы-Палякі або апалячаныя Беларусы-рэнэгаты, прызначаныя на парахвіі яшчэ перад апошняй вайной віленскім мітрапалітам Рамуальдам Ялбжыкоўскім, ведамым польскім шавіністым і заўзятым ворагам беларушчыны, надалей, па 35-ёх гадох расейска-савецкае ўлады на ейных прасторах, а намагаюцца апалячваць сваіх парахвіянаў.

Аднак, гэтак як не ўдалося праваслаўным сьвятаром-Расейцам зрусыфікаваць беларускага селяніна на працягу вякоў, гэтак ня здолелі й каталіцкія ксяндзы-Палякі апалячыць яго, але яны, сеючы сярод беларускага народу антаганізм і рэлігійную няпрыцерплівасьць, зрабілі яму вялікую шкоду, падзяліўшы яго на „рускіх" і „польскіх". Згубныя вынікі іхнае „душпастырскае" дзейнасьці адчуваюцца яшчэ й сяньня. Як тут не прыгадаць словаў паэты: „І цяпер над намі, брацьце, / Яшчэ ў сіле той раздор — / І папоўскае закляцьце, / І ксяндзоўскі нагавор".

Але вярнемся да пытаньня пра стан каталіцтва на Беларусі. Я. Мірскі пісаў сваім часам у артыкуле „Уражаньні з СССР, 1970-1973" („Культура", № 11/314, 1973): „Найцяжэйшы стан, проста драматычны, пануе на Беларусі. Улады тут імкнуцца ня толькі да абсалютнай русыфікацыі, але таксама намагаюцца зачыніць касьцёлы й зьліквідаваць нармальную душпастырскую працу... Маладое пакаленьне ў выніку рэлігійнае неасьведамленасьці, ня маючы лёгкага доступу ў касьцёл ды ня ведаючы польскае мовы, паволі стаецца рэлігійна абыякавым". Ці гэтага хацелі ксяндзы, уводзячы пасьля II-га Ватыканскага Сабору польскую мову ў касьцеле?

На Беларусі, як я ўжо казаў, няма ніводнага каталіцкага епіскапа, але Ватыкан ня высьвяціў на епіскапа для Беларусі ксяндза Ўладыслава Чарняўскага, які, паводля Я. Мірскага, езьдзіў у Рым з мэтай атрыманьня епіскапскага сану і, вярнуўшыся адтуль, наракаў, што польскія інтрыгі яму ў гэтым перашкодзілі.

(Ад Рэдакцыі „Беларуса": Як нам ведама з добра паінфармаванае крыніцы, паміж Масквою й Ватыканам было сваім часам дасягнутае паразуменьне, што а. Ул. Чарняўскі будзе высьвечаны ў епіскапы для працы сярод каталіцкіх вернікаў на Беларусі, але ў выніку пратэсту супраць гэтага высьвячэньня з боку нядаўна памерлага кардынала Вышынскага, прымаса польскае каталіцкае Царквы, Ватыкан устрымаўся ад высьвячэньня).

Ватыкан хіратанізаваў у епіскапы „Беларуса для Беларусаў" ксяндза Часлава Сіповіча, які жыў у Ангельшчыне, але належаў не да рымска-каталіцкага абраду, а да ўсходняга (бізантыйскага ці грэкакаталіцкага, вуніяцкага). Але, як ведама, ні на бацькаўшчыне, ні на эміграцыі сярод Беларусаў вернікаў гэтага абраду няма.

Пытаньне беларускага каталіцкага епіскапа для Беларусаў на Беларусі, такім парадкам, застаецца адчыненым і балюча актуальным.

Што да епіскапа Сіповіча, дык добра, што сваім часам ён пазнаёміўся з кракаўскім кардыналам Каролям Вайтылам, сучасным Папам Янам Паўлам II, і, маючы да яго доступ, інфармаваў яго пра запраўдны стан рэчаў у рэлігійным жыцьці Беларусаў-каталікоў ды іхныя патрэбы. Епіскап Сіповіч думаў, што Папа ўсё-ж нешта зробіць, каб упарадкаваць каталіцкае рэлігійнае жыцьцё на Беларусі. Папа Ян Павал II напэўна й сам, як Паляк, дасканала ведае пра цяжкі стан каталіцтва на Беларусі. І затым трэба спадзявацца, што ён запраўды „нешта зробіць".

Найважнейшая пры гэтым справа, і найбольш балючая, якая мусіць быць упарадкаваная перш-наперш — гэта справа мовы ў касьцёлах на Беларусі. Трэба дамагацца ад Ватыкану, каб, згодна з пастановай Другога Ватыканскага Сабору, у касьцёлах на Беларусі была ўведзеная беларуская мова.

**Уладзімер Брылеўскі**

## УРАЧЫСТАСЬЦЬ ЗАКАНЧЭНЬНЯ ПОМНІКА



Як аб гэтым падавалася ў карэспандэнцыі пра заканчэньне будовы помніка Беларускім Гэроям у „Беларусе" № 290-291 (чырвень-ліпень), на нядзелю 6-га верасьня была заплянаваная ўрачыстасьць заканчэньня помніка. Арганізавала й правяло яе Згуртаваньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў.

Дзень выпаў цёплы й пагодны. Урачыстасьць пачалася з багаслужбы ў царкве Сьв. Жыровіцкае Маці Божае ў Нью Брансўіку, якую адправілі Архіепіскап Мікалай у суслужэньні з а.а. Аляксандрам Яноўскім й Міхасём Страпком. Пашыраным хорам кіраваў сп. М. Тулейка.

На могільнік у Іст Брансўік прыбыла вялікая колькасьць мясцовых Беларусаў ды гасьцей з блізкіх і далёкіх мясьцінаў Амэрыкі ды з Канады. Адбыўся кароткі парад сьцяжных дружынаў зь Нью Брансўіку й Кліўленду, якімі камандаваў маёр Сяргей Гутырчык. Парад прыймалі ген. Язэп Сажыч, ген. Віталі Кажан і палк. Лявон Трусэвіч. Уладыка Мікалай у суслужэньні двух сьвятароў адправіў паніхіду за тых, што змагаліся, каб жыла Беларусь.

Банкет з нагоды ўрачыстасьці заканчэньня адбыўся ў Партугальскай Залі. Афіцыйную частку банкету вёў сп. Уладзімер Русак. З прамовамі й прывітаньнямі выступалі: др. Я. Сажыч, пісьменьнік і рэдактар вэтэранскага часапісу „Зважай" К. Акула, др. Л. Трусэвіч, сп-ня Галіна Русак, старшыня БАЗА сп. Антон Шукелойць, др. Я. Запруднік ад газэты „Беларус", а. Аляксандар Яноўскі ды сп. С. Гутырчык. Сп. Гутырчык адзначыў сваё цеснае супрацоўніцтва зь мясцовымі вэтэранамі, зь якімі яму давялося прайсьці даўгія шляхі, сп.сп. Машанскім, Койкам і Дубягам; прыгадаў аўтара праекту помніка сп. Барыса Данілюка ды адзначыў выдатную ролю дэтройцкага прыходу ў пабудове помніка.

Удзельнікі банкету былі ўдзячныя сардэчным і працавітым жанчынам, за зрыхтаваньне смачное ежы — сп-ням Тамары Януш, Надзі Няпеін і Сьвятлане Гартман ды тым, што памагалі ім — сп-ням Марыі Азарка й Люсі Гутырчык.

Духовым дэсэртам усім былі ваяцкія й патрыятычныя беларускія песьні, якія з энтузіязмам выконваліся, адсьвяжаючы ў памяці напоўзабытыя некаторыя звароткі.

**Я. З.**

## ФЭСТЫВАЛЬ У ПАРКУ СВАБОДЫ



**Фрагмэнт з выстаўкі: Надзя Кудасава за пражай, губэрнатар Брэндан Бэрн прыглядаецца**

У сыботу 12-га і ў нядзелю 13-га верасьня ў Парку Свабоды, што пры Джэрзі Сыты ў штаце Нью Джэрзі, адбыўся ўжо 3-ці гадовы этнічны фэстываль. Фэстывалі гэтыя штагоду павялічваюцца, растуць: усё больш і больш этнічных групаў бярэ ўдзел, папулярнасьць фэстывалю ўзрастае, як сярод мясцовых жыхароў бліжэйшых гарадоў, гэтак і ў этнічных асяродках цэлага штату, ды нават шырэй, па-за межамі штату.

Беларусы прыймаюць удзел у фэстывалі ад самага пачатку яго. Ужо трэйці год нашы выставы цешаць вока наведвальнікаў ды інфармуюць пра Беларусь і Беларусаў, нашыя жанчыны-ўмельцы дэманструюць сваё майстэрства й вырабы, нашая моладзь выступае з танцамі ды нашая кухня задавальняе кулінарныя вымаганьні публікі.

Надвор'е гэтым разам асабліва спрыяла фэстывалю. У сыботу рана ўладзілі мы выстаўку: Надзя Кудасава засела за сваё верацяно, Тамара Кольба ўладкавалася плесьці паясы, Жэня Дубяга завіхалася каля ежы. Галіна Русак, Ліза Літаровіч, Зора Кіпель ды Ірэна Рагалевіч-Дутко абслугоўвалі выставу, адказвалі на пытаньні наведвальнікаў, давалі інфармацыю для прэсы. Пад абед надыйшла падмога і з суседняга Нью Ёрку: прыехалі Рая Станкевіч і сп. Антон Шукелойць з брашуркамі й памфлетамі пра Беларусь.

Але найбольш ажыла нашая стаянка, калі неўзабаве па абедзе пачала зьбірацца на танцы моладзь: ўсе ў беларускіх касьцюмах, прыгожыя, маладыя, вясёлыя, яны прыцягвалі ўвагу й наведвальнікаў і прэсы і... палітыкаў. Палітыкаў, дарэчы сказаць, было гэтым разам шмат: быў і губэрнатар Брэндан Бэрн, добры сябра Беларусаў, і абодвы кандыдаты на губэрнатара Джым Флёрыё і Том Кэйн. Усе яны цікавіліся нашай выставай, рабілі фатаграфіі з моладзьдзю, вэрбавалі сабе ахвотнікаў да перадвыбарнай працы. А др. Вітаўт Кіпель, старшыня Этнічнае Рады Штату Нью Джэрзі й кіраўнік фэстывалю, не прамінуў нагоды, каб накіроўваць пад нашую стаянку й палітыкаў і прэсу.

Папаўдні танцавальная група „Васілёк" выступала з танцамі. Выканалі яны пад кіраўніцтвам і з удзелам Алы Орса-Романа два танцы: „Лявоніху" й „Польку-Васілёк". Выканалі вельмі ўдала, жвава весела, і зрабілі добрае ўражаньне. Як я ўжо зазначыла вышэй, іхная прысутнасьць наагул рабіла вельмі добрае й пазытыўнае ўзьдзейваньне.

У нядзелю наведвальнікаў было яшчэ больш (паводля падліку урадаўцаў парку, каля 10-ёх тысячаў). Нашая стаянка была даслоўна абкружаная. Надзя Кудасава й Тамара Кольба, якія амаль бесьперапынна сядзелі пры сваіх „варштатах", Галіна Русак і Зора Кіпель — пры выстаўцы ды сп-ня Марыя Кажура каля ежы не пасьпевалі адказваць на пытаньні зацікаўленай публікі. А публіка была самая разнастайная. Былі тут і старыя й новапрыбылыя эмігранты зь Беларусі, і прадстаўнікі іншых славянскіх народаў, ды розных іншых этнічных групаў, якіх так шмат у нашым штаце. Былі й прэса й тэлебачаньне. Надзя Кудасава мела інтэрв'ю з прадстаўніком 2-га каналу Сы-Бі-Эс, якое пазьней было паказанае на вячорных навінах. Былі й водгукі ў прэсе.

І вось, яшчэ раз невялікая група энтузыястых (гэтым разам, праўда, дапоўненая добрай колькасьцю моладзі) зрабіла важную карысную справу — справу інфармацыі пра Беларусь, пра наш народ ды нашую культуру.

**Зора Кіпель**

## МАЛАДОЕ ПАКАЛЕНЬНЕ

Працягваю ўжо раней пачатую (у № 281 газэты) тэму пра маладое пакаленьне, падыходзячы да яе з пазытыўнага гледзішча. Гэтым разам пазнаёмімся бліжэй з маладым сужэнствам сп-твам Нонай і Юркам Азаркамі.

Вясельле іхнае згулялі год таму. Слаўнае было тое вясельле, тыпова беларускае.

На пачатку пра іх: Юрку й Нону. Хто яны? Як выгадаваліся, каб вырасьці на прызнаных грамадзтвам беларускіх дзейных рухавікоў сярод маладога пакаленьня?

Пачну ад сп. Юркі (так яго называем да сяньня, абмінаючы навуковыя прыбаўкі-тытулы), бо ведаю добра ягоную сям'ю, што яго ўзгадавала.

Гайлэнд Парк у штаце Нью Джэрзі — моцны, нацыянальна дзейны беларускі грамадзкі асяродак. Людзі тут жывуць блізка адзін ад аднаго ды сустракаюцца часта: у царкве на багаслужбах, на грамадзкіх ды таварыскіх зборках у залі таго самага будынку.

Вось у гэтае асяродзьдзе, вядучы за руку сына й дачку Ірэну, кожны канцатыдзень уключалася ў грамадзкае й рэлігійнае жыцьцё суродзічаў сям'я Азаркаў.

Юрка вырас у гэтай беларускай атмасфэры, наведваў тут і беларускую школу, настаўнікам якой быў прафэсіянальны пэдагог сьв. пам. Філярэт Родзька. Але й бацька прылажыўся таксама да ўсьведамленьня хлопчыка, расказваючы яму пра бацькаўшчыну Беларусь, што сын ўспрыймаў як фантастычную казку.

І не зважаючы на тое, што амэрыканская школа пахлынала шмат часу, ды прымушала думаць паангельску, перахоўвалася глыбака ў памяці чутае ад бацькоў ды ня гінула пачуцьцё прыналежнасьці да беларускае нацыі, што й вылілася навонкі пазьней у кончай патрэбе дзеяньня — нешта рабіць для далёкае бацькаўшчыны.

Вынікам тае задумы стаўся намер скончыць два факультэты: інжынерыю, каб мець сталую прафэсійную працу, ды гісторыю, каб пазнаёміцца з рознымі народамі, а перш-наперш зь беларускім народам, ягонай культурай ды асэнсаваць яе праз параўнаньні. Пачаў пры гэтым занята працаваць над авалоданьнем беларускае мовы. Ня было гэта лёгкім заданьнем. Спрабаваў яе ўжываць, не зьняверваўся, быў аптымістым. Такім застаўся і да сяньня, ўсё яшчэ ваюючы з амэрыканскім акцэнтам у вымове. Сп-тва Нона й Юрка наведваюць рэфэраты Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку, дзе сп. Юрка выступае ў дыскусіях ды палеміцы. Ён верны й да сяньня сваёй Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі, на старшыню якое быў перавыбраны сёлета на агульным сходзе. У арганізацыі БАЗА ён — рэфэрэнт моладзі.

Ягоная жыцьцёвая спадарожніца Нона з дому Махнюк, яна паходзіць з абдараванай талентамі беларускай сям'і. Бацька ейны — Айцец дыякан Алег Махнюк, ён таксама й выдатны мастак-разьбяр, пераважна па дрэву; маці сп-ня Людміла — выдатная сьпявачка, належыць да хору „Каліна" ў Саўт Рывэры ды таксама ведамая мастачка жывапісу.

Сп-тва Нона й Юрка наведваюць спадчыне зацікаўленьне да мастацтва. Яна сяброўка хору „Каліна", а прафэсія ейная — дэкаратыўнае мастацтва; працуе яна ў дэкаратыўнай фірме як заступніца дырэктара. Сп-тва Нона й Юрка Азаркі — сябры ведамага танцавальнага гуртка „Васілёк".



**Нона й Юрка ў дзень шлюбу**

Паўторым словы з пачатку артыкулу: Вясельле згулялі на славу. Таму так радасна гулялася, бо было яно беларускім, пачынаючы ад шлюбу ў беларускай царкве Сьв. Жыровіцкай Маці Божай у Гайлэнд Парку, дзе павянчаў маладую пару а. Аляксандар Яноўскі. Таксама пры ўваходзе ў залю а. Аляксандар і бацькі маладых прывіталі іх беларускім звычаем, традыцыйным хлебам і сольлю ды віном. А пасьля багатае застольнае бяседы ў добрым настроі скакалі пад музыку ведамае аркестры Леаніда Рудзінскага.

Прыемна было глядзець на прыгажунь-дружак і прыстойных дружбантаў у іхных адмысловых касьцюмах. А імі былі: Аліцыя Махнюк (сястра маладой), Элеанора Занкевіч, Ірэна Азарка (сястра маладога) і Галена Літаровіч; Юрка Курыла, Юрка Філенка (сваяк маладога), Юрка Андрусышын і Вітаўт Тумаш (малодшы). Тэмпэрамэнтна скакалі на залі беларускія народныя танцы, а Лявоніху (колькі дзесяткаў параў) вялі маладыя: сп-тва Нона й Юрка.

Падарункам для ўсіх прысутных прагучэлі беларускія песьні таленавітага Данчыка Андрусышына улюбёнца беларускае аўдыторыі.

**З гадавым юбілеем, дарагія сп-ва Нона й Юрка Азаркі!**

**Зінаіда Станкевіч**

## СПРАВАЗДАЧНЫ СХОД У СЫДНЭІ

Беларускі Грамадзка-Культурны Клюб у Сыднэі (Аўстралія) правёў 30 жніўня сёлета свой восьмы чарговы справаздачна-перавыбарны сход. Сп. В. Пляхоцкі, старшыня Клюбу, адчыніў сход ды прывітаў ягоных удзельнікаў. Хвілінай маўчаньня была ўшанаваная памяць памерлых сяброў Клюбу.

Із справаздачаў уступаючае ўправы выплывала, што Клюб ладзіў нацыянальныя сьвяткаваньні, вечарыны ды іншыя імпрэзы. Галоўным клопатам управы было знайсьці адпаведны кавалак зямлі на разбудову Клюбу. Стараньні гэтыя дагэтуль, аднак, не далі пажаданых вынікаў.

Рэвізійная камісія сьцьвердзіла, што касавыя кнігі вяліся добра ды паказваюць невялікі гадавы прыбытак. Па кароткай дыскусіі адбыліся выбары. У склад новае ўправы Клюбу ўвайшлі: старшыня — сп-ня А. Калпяка, сябры: В. Марчанка, І. Калпяка, А. Корзун, С. Тамашэўскі, М. Мілеўскі, А. Бакуновіч, В. Л., Я. Гавенчык, М. Ціхан, А. Галашук, А. Смаль, В. Пляхоцкі.

Старшынёй Жаночага Камітэту засталася надалей сп-ня О. Тамашэўская, скарбнікам — сп-ня Л. Олрайт.

Трэба пажадаць новай управе Клюбу плённае працы.

**А. К-а**

## ВЫПУСКНІКІ ВЫШЭЙШЫХ ШКОЛАЎ У НЬЮ ДЖЭРЗІ

Сёлета скончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы Альгерд Кажура — сын сп-тва Пётры й Марыі Кажураў і Антон Сільвановіч — сын сп-тва Аляксандра й Ніны Сільвановічаў. Альгерд закончыў Унівэрсытэт Ратгэрс у Нью Джэрзі са ступеньню бакалаўра ў галіне бізнэсавай адміністрацыі. Антон закончыў Унівэрсытэт Лігай у Пэнсыльвэніі са ступеньню бакалаўра ў галіне хэмічнай інжынерыі. Абодвы Альгерд і Антон наведвалі беларускую сыботнюю школу ў Гайлэнд Парку, належалі да танцавальнай групы, прыслужвалі ў мясцовай царкве й былі добрымі спартоўцамі.

Сяньня мясцовая беларуская калёнія вітае абсальвэнтаў ды іхных бацькоў з нагоды заканчэньня навукі ды жадае абаім абсальвэнтам удачаў у далейшай навуцы й жыцьці.



**Альгерд Кажура**

Апрача наведваньня школы Альгерд браў актыўны ўдзел у дзейнасьці Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Яшчэ й сяньня, калі прыходзіць патрэба, ён танцуе ў танцавальнай групе „Васілёк". Альгерд адзначыўся як выдатны валейбалісты каманды Ўнівэрсытэту Ратгэрс „Рэйдэрс". Рэйдэрс — найлепшая валейбольная каманда ўсходняга пабярэжжа ЗШ Амэрыкі й стаіць блізка да пяршынства Амэрыкі. Альгерд наведаў са сваёй камандай шмат краінаў сьвету. Ён заўсёды рэпрэзантуе горда імя свайго ўнівэрсытэту й імя беларускае. Летась ён быў заступнікам капітана каманды, сёлета ён — капітан каманды. Пра яго дасягненьні часта пісалася ў прэсе Нью Джэрзі. Па заканчэньні каледжу Альгерд працягвае далей навуку ў тэй самай галіне на ступень магістра.



**Антон Сільвановіч**

Антон яшчэ ў часе наведваньня сярэдняе школы моцна цікавіўся гульнёй у шахматы. Ён браў удзел у маладзежных турнірах і ціраз быў чампіёнам штату Нью Джэрзі ў катэгорыі свайго веку ды нават старэйшых катэгорыяў. Антон увесь час прыслужваў у царкве, вывучыў царкоўна-славянскую мову й цяпер, калі прыяжджае дамоў, ніколі не забываецца пра царкву. У каледжы Антон ўжо браў удзел у навуковых дасьледваньнях. За апублікаваньне свайго артыкулу ён дастаў узнагароду Амэрыканскага Інстытуту Інжынераў Хэміі. Антон вучыцца далей на ступень магістра ў хэмічнай інжынерыі.

**Р. Г.**

## СЬВ. ПАМ. БІСКУП БАЛЯСЛАЎ СЛОСКАНС



Як паведамляе "L'Osservatore Romano" 18-га красавіка сёлета памёр у Лювэне на 88-м годзе жыцьця біскуп Баляслаў Слосканс, Апостальскі Адміністратар для Каталікоў Магілеўскай і Менскай дыецэзіяў.

Біскуп Баляслаў Слосканс нарадзіўся ў 1893 г. у вёсцы Сіляянах каля Рэжыцы ў Лацьвіі. Ён скончыў Духоўную каталіцкую сэмінарыю ды пасьля Акадэмію ў Пецярбургу й у 1917-м годзе быў высьвячаны за сьвятара. Свае душпастырскія абавязкі поўніў у Пецярбургу ды ў гарадох Беларусі: Смаленску, Віцебску, Магілеве. 10-га траўня 1926 г. у касьцеле Св. Людзьвіка ў Маскве, у сакрэце ад бальшавіцкае ўлады атрымаў з рук высланьніка Папы Піуса XI, арцыбіскупа Міхала Д. Эрбіні, які знаходзіўся ў францускім пасольсьцьве ў Маскве, біскупскую сакру ды прызначэньне за адміністратара Магілеўскае і Менскае дыецэзіяў. Не давялося аднак доўга выконваць свае функцыі маладому біскупу. 17-га верасьня 1927 г. ён быў арыштаваны ды сасланы на Салавецкія абтокі ў лягеры прымусовае працы.

У 1930 г. біскуп Баляслаў Слосканс быў звольнены ды, вярнуўшыся ў Магілеў, прыступіў, ўжо легальна, да выконваньня сваіх душпастырскіх абавязкаў. Неўзабаве аднак выявілася, што ягонае звальненьне было „памылкай", ён быў ізноў арыштаваны ды да 1933 г. прайшоў 17 бальшавіцкіх турмаў, аж пакуль латыскі ўрад ня вымяняў яго на бальшавіцкага агента.

Пасьля выязду з Савецкага Саюзу біскуп Слосканс наведаў Ватыкан, які ўзнагародзіў яго высокімі тытуламі й ардэнамі, ды асеўшы настала ў Лацьвіі займаўся пэдагагічнай працай ў Рыскай каталіцкай сэмінарыі ды ўнівэрсытэце.

У часе Другой сусьветнай вайны й нямецкай акупацыі Беларусі не адна дэлегацыя Беларусаў наведала біскупа Слосканса ў Рызе, просячы яго вярнуцца на сваё становішча. Біскуп Баляслаў Слосканс адмаўляўся, матывуючы забаронай нямецкіх уладаў.

У 1944. Біскуп Баляслаў Слосканс быў вывезены ў Нямеччыну, адкуль перабраўся ў Бэльгію, дзе ў Лювэнскім бэнэдыктынскім кляштары дажыў да канца сваіх дзён.

**А.Ш.**

## СЬВ. ПАМ. ГАЛЕНА ШУРАК



Народжаная ў Блузкім Бары Менскае вобласьці 14 травеня 1906 году, адыйшла на вечны супачын 21 жнівеня 1981 году ў Саўт Рывэры, Н. Дж., ЗША, пакінуўшы ў глыбокім смутку сыноў Лявона, Анатоля й дачку Стасю ды шасьцёра ўнукаў. Вечная памяць!

**Дзеці**

## СЬВ. ПАМ. ВІНЦЭНТ СЬПІЧОНАК

Вінцэнт (Віктар) Сьпічонак нарадзіўся 26 чырвеня 1915 году ў вёсцы Лаці, што каля Докшыц. Памёр 6 чырвеня 1981 году ў гор. Кліўленьдзе (ЗША), дзе жыў апошнія 25 год. Пахаваны на беларускай сэкцыі агульнага гарадзкога магільніка Рывэрсайд.

Сьмерць сьв. пам. Сьпічонка — вялікая страта для беларускай грамады наагул ды асабліва для царквы БАПЦ у Кліўленьдзе.



Жыцьцё Вінцука Сьпічонка ня было лёгкім. Як наймалодшы з шасьцёх дзяцей у бацькоў, мусіў з малых год цяжка працаваць і хадзіць за тры кілямэтры ў Докшыцкую пачаткавую школу. Па сканчэньні шостае клясы залічыўся ў 4-ю клясу Дзісенскае гімназіі, якое аднак не давялося скончыць. Далей вучыўся ў тэхнічнай школе ў Вільні. Бывшы на другім курсе, дастаў раптам пакліканьне ў польскае войска. Просьба да прэзыдэнта Польшчы Масьціцкага аб звальненьні ад вайсковае службы не дапамагла, давялося йсьці служыць. Уважаў, што адмоўны адказ дастаў таму, што заўсёды выступаў як Беларус.

Калі ў верасьні 1939 году выбухнула нямецка-польская вайна й польская армія была разьбітая, вярнуўся дамоў. Некаторы час вучыў дзяцей недалёка ад свае мясцовасьці. Дзеля сваіх крытычных паглядаў на савецкую акупацыю Беларусі, аднак, трапіў у катэгорыю „ненадзейных", ад навучаньня дзяцей быў адсунуты. Знайшоў сабе працу мярнічага ў Старой Вялейцы, якраз у часе, калі пракацілася найвялікшая хваля вывазаў нявінных людзей зь Беларусі. Але неўзабаве акупанты самыя пачалі ўцякаць на ўсход, адкуль прыйшлі.

У часе нямецкае акупацыі, калі ўладу захапілі былі ў свае рукі Палякі, сьв. пам. Сьпічонак, як сьведамы Беларус, змагаўся, каб на Беларусі ўлада належала Беларусам. Працаваў, наражаючыся часта на небясьпеку, сакратаром парфенаўскае гміны, якую пасьля бальшавіцкія партызаны спалілі.

У чырвені 1944 году дастаў паведамленьне, што ён прызначаны ехаць у Менск на Другі Кангрэс. Аднак дзеля транспартавае разрухі давялося ехаць у вадваротным кірунку, на Захад. Апынуўшыся на чужыне, заўсёды шукаў сваіх людзей, свае беларускія арганізацыі. Па вайне служыў у вартаўнічай кампаніі, ахоўваў нямецкіх палонных. Калі гэтыя ахоўныя кампаніі былі разьвязаныя, Нябожчык падаўся разам із сваім сябрам Янкам Ніхаёнкам у Парыж шукаць інжынераў Рыдлеўскага й Абрамчыка, якія тады вялі беларускую арганізацыю „Хаўрус", ды поўнасьцяй уліўся там у беларускае жыцьцё. У Парыжы быў нат арганізаваны беларускі хор пад кіраўніцтвам сп. Шляхэткі, былога кіраўніка вайсковае аркестры.

У Парыжы аднак беларускае жыцьцё патрывала нядоўга, бо хутка сябры пачалі разьяжджацца як па заакіянскіх краёх, гэтак і па розных мясьцінах Францыі. Сьв. пам. Сьпічонак выехаў у Манрэаль у Канаду. Там, як і ў Парыжы, узяўся йзноў разам зь іншымі сябрамі арганізаваць беларускае культурнае жыцьцё. Заснавалі хор „Жалейку", драматычны гурток; ставілі п'есы „Заручыны Паўлінкі", „Модны шляхцюк", „Дзе д'ябал ня зможа, бабу пашле". Душой арганізацыйнага жыцьця, асабліва хору, быў Паўлік Чопчыц. Пасьля пары год такога арганізаванага жыцьця пачалі брацца за будову свае БАПЦ царквы. Ужо навязалі лучнасьць з Уладыкам Васілём, купілі пляц пад царкоўны будынак. Нажаль, у выніку выезду некаторых з актывістых, у тым ліку Чопчыца й Сьпічонка, праекту пабудовы свае царквы там ужыцьцёвіць не ўдалося.

У Кліўленд сьв. пам. Вінцук (Віктар) Сьпічонак прыехаў пад канец 1956 году. Адразу-ж уліўся ў грамадзкую працу: быў добрым прыхаджанінам БАПЦ, сябром БАЗА, належыў да сьвецкага й царкоўнага хораў, а колькі гадоў таму ўступіў у БАГЦ „Полацак". Заўсёды падтрымоўваў усе беларускія арганізацыйныя мерапрыёмствы, ніколі не шкадваў ахвяраў на нацыянальную справу. Навет у сваім тэстамэнце не забыўся пра газэту „Беларус".

Хвароба Нябожчыка была цяжкая й зацяжная. Абрад пахаваньня выканаў а. Міхась Страпко. Праводзіла Нябожчыка ладная грамада сяброў, знаёмых, сваякоў. Жалобным гімнам „Сьпі пад курганам гэрояў" разьвіталіся із сьв. пам. Вінцэнтам (Віктарам) Сьпічонкам.

**П. Б.**

## БЕЛАРУСКА-УКРАІНСКІ НАВУКОВЫ ВЕЧАР

3-га жніўня ў Мюнхэне, у будынку Украінскага Вольнага Унівэрсытэту (УВУ), адбыўся беларуска-ўкраінскі навуковы вечар, прысьвечаны памяці прафэсара Льва Акіншэвіча, які памёр 7 лістапада 1980 году. Такі вечар, супольна зладжаны Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва і Навуковым Таварыствам імя Т. Шаўчэнкі, яшчэ раней, у красавіку сёлета, адбыўся ў Нью Ёрку. Але паколькі ад 1944-га да 1949-га году, спачатку ў Празе, а пасьля ў Мюнхэне, Леў Акіншэвіч быў прафэсарам і дэканам юрыдычнага факультэту УВУ, дык узьнікла ідэя вечар ушанаваньня памяці Акіншэвіча наладзіць таксама ў Мюнхэне. Арганізатарамі тут гэтага вечару былі Украінскі Вольны Унівэрсытэт і Мюнхэнскі філіял Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Беларуская калёнія ў Мюнхэне невялікая, але на вечар зыйшлося шмат Украінцаў, і даволі вялікая Актавая заля Унівэрсытэту амаль уся была запоўненая аўдыторыяй, хоць вечар адбыўся ў няспрыяльны для гэтага дзень — у панядзелак.

З украінскага боку былі два даклады. Першы зь іх прысьвячаўся праф. Акіншэвічу як выдатнаму гісторыку ўкраінскага дзяржаўнага права, і з гэтым дакладам выступіў старшыня Навуковага Таварыства імя Т. Шаўчэнкі доктар Ярослаў Падах. Іншы даклад, даклад прафэсара Т. Цюцюры, датычыў да дзейнасьці Льва Акіншэвіча як прафэсара і дэкана УВУ.

Зь беларускага боку быў адзін даклад: „Уклад прафэсара Льва Акіншэвіча ў беларускую гістарыяграфію". Пераважна на матарыялах вечару ў Нью Ёрку, даклад гэты падрыхтаваў П. Урбан, і на вечары ў Мюнхэне яго зь вялікай удачай прачытала Л. Урбан.

Зачыняючы вечар і падсумоўваючы сказанае на ім, рэктар УВУ праф. Яніў выказаў пажаданьне наладзіць у Мюнхэне бліжэйшае ўкраінска-беларускае супрацоўніцтва і дзеля гэтай мэты склікаць украінска-беларускую навуковую канфэрэнцыю, прысьвечаную беларуска-ўкраінскім дачыненьням, праблемам гістарычнага мінулага, палажэньня й палітычнай вагі Беларусі й Украіны ў сучаснасьці.

Мюнхэн, жнівень 1981 г.

**П. Залужны**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце газэту Беларусаў у Вольным Сьвеце „БЕЛАРУС"**

## СЬВ. ПАМ. ПЁТРА МІКУЛІЧ

У нядзелю 23 жнівеня сёлета, па даўгой і цяжкой хваробе, памёр у Мэльбурне сьв. пам. Пётра Мікуліч.

Нябожчык нарадзіўся 12 сьнежня 1922 году ў сьведамай беларускай сялянскай сям'і ў вёсцы Бараўцы каля Вялейкі. Там-жа ў Бараўцох скончыў шасьцігадовую пачаткавую школу, пасьля якое наведваў колькі гадоў у тэй-жа вёсцы вячорныя курсы для дарослых. На гэтых курсах выявіў асаблівае зацікаўленьне да музыкі й сьпеву, гісторыі ды грамадзкіх навукаў.

Малады Мікуліч праявіў сябе як стойкі Беларус, на курсах браў удзел у частых дыскусійных вечарох. Гэткім-жа стойкім і адважным беларускім юнаком праявіў сябе, калі ў часе нямецкае акупацыі ўступіў у беларускую службу аховы.



**У сваім агародзе з плёнам-памідорам**

Канец Другое сусьветнае вайны застаў яго ў гор. Інгальштадце ў Заходняй Нямеччыне. Нябожчык хутка навязаў лучнасьць зь беларускімі эміграцыйнымі асяродкамі амэрыканскае акупацыйнае зоны ды ўключыўся ў нацыянальна-грамадзкую працу. У 1948 годзе эміграваў у Аўстралію. Па сканчэньні двухгадовага кантракту на хвабрыцы цымэнту ў Новай Паўдзённай Валіі перабраўся ў Мэльбурн. Тут уключыўся адразу-ж у нацыянальна-грамадзкую працу, дзеля якое не шкадаваў ані часу, ані сілаў, ані грошай. Арганізаваў тут беларускі мяшаны хор, кіраўніком якога заставаўся амаль да самага канца свайго жыцьця. Быў ён таксама адным з арганізатараў і шматгадовым рэгентам царкоўнага хору парахвіі БАПЦ у Мэльбурне, адным зь ініцыятараў куплі Беларускага Дому ў Мэльбурне ды скарбнікам каапэратыву гэтага Дому. Быў шматгадовым радным БНР і скарбнікам аўстралійскага сэктару, а пасьля сакратаром і скарбнікам мэльбурнскага падсэктару. Ува ўсіх галінах грамадзкай працы праяўляў саліднасьць, працавітасьць ды вернасьць нашым нацыянальным ідэалам.

Нябожчык праяўляў заўсёды вялікую рупнасьць і пашану да беларускага друкаванага слова, на выдавецкія патрэбы якога не шкадаваў грошай, заробленых цяжкой, даўгой хвабрычнай працай, не адмаўляў іх навет тады, калі ўжо быў хворы й пакінуў працаваць. Быў усё сваё жыцьцё беларускім патрыётам, любіў бязьмежна Бацькаўшчыну-Беларусь, дзеля дабра якое быў гатовы аддаць усё, ня выключаючы жыцьця.

Сьв. пам. Пётра Мікуліч быў пахаваны 26 жнівеня 1981 году на ўкраінскай дзялянцы могілкаў Фокнэр. Абрад паховінаў адслужыў украінскі праваслаўны сьвятар а. Барыс Стасышын. Не зважаючы на тое, што гэта быў працоўны дзень, аддаць пашану Нябожчыку зьявілася вялікая колькасьць людзей — прыяцеляў, сяброў, знаёмых, сярод іх пераважна Беларусы, а таксама Украінцы, Аўстралійцы ды іншыя.

Над адкрытай магілай разьвіталіся зь Нябожчыкам сп-ня Л. Яцкевіч ад імя беларускага хору, сп. У. Сідлярэвіч ад імя Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі й каапэратыву Беларускага Дому, сп. М. Нікан ад імя Рады БНР і сп. М. Скабей ад імя сяброў і прыяцеляў.

Жонка Нябожчыка сп-ня А. Мікуліч зь сям'ёй прасіла мяне выказаць шчырую падзяку ад ейнага імя беларускаму Мэльбурну й усім асобам іншай нацыянальнасьці, якія ўшанавалі памяць ейнага мужа сваім удзелам у паховінах.

**А. Калодка**

## ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ

У сыботу 5-га верасьня сёлета ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, адбыўся 20-ты зьезд Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі. Зьезд адчыніў старшыня ўступаючае галоўнай управы АБАМ сп. Юрка Азарка. Пасьля прыняцьця парадку дня, у прэзыдыюм зьезду былі выбрныя за старшыню сябра Альгерд Кажура і сяброўка Вера Запруднік на сакратарку.

З прынагоднымі прывітаньнямі выступалі: старшыня галоўнае ўправы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня мгр. Антон Шукелойць, старшыня Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Нью Джэрзі капітан Сяргей Гутырчык, сябра аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі сп. Янка Азарка і праф. Антон Адамовіч, які у сваім прывітаньні падчыркнуў, што сьведамая сучасная моладзь гэта нашая зьмена ў беларускім грамадзкім, акадэмічным і палітычным жыцьці беларускага грамадзтва ў ЗША. У сваім прывітаньні пісьменьнік сп. Кастусь Акула з Канады выступаў ня толькі ад сябе, але й перадаў прывітаньні ад беларускае моладзі й грамадзтва з Аўстраліі, беларускія асяродкі якой наведаў сёлета.

Усе прамоўцы з прызнаньнем падчырквалі грамадзкую дзейнасьць моладзі навонкі ды добрае супрацоўніцтва зь іншымі беларускімі арганізацыямі. Яны заклікалі моладзь ісьці па тэй самай дарозе супрацоўніцтва на карысьць беларускага грамадзтва ў ЗША, а гэта і ёсьць адначасна працаю на карысьць паняволенага беларускага народу на бацькаўшчыне.

Па прачытаньні й прыняцьці пратаколу 19-га Зьезду АБАМ, сябра Юрка Азарка зрабіў справаздачу зь дзейнасьці галоўнае ўправы за мінулыя два гады. Былі прачытаныя таксама справаздачы сакратара й скарбніка, як і справаздачы зь дзейнасьці аддзелаў АБАМ,

Наступна галоўны рэдактар часапісу моладзі „Беларуская Моладзь" Раіса Станкевіч здала фінансавую і агульную справаздачы за два гады.

Рэвізійная камісія пасьля сваёй справаздачы запрапанавала ўступаючай галоўнай ўправе прызнаць абсалюторыюм з падзякай, што й было прынята праз аклямацыю.

На наступны двухгадовы пэрыяд быў перавыбраны аднагалосна за старшыню сябра Юрка Азарка. У склад управы ўвайшлі: сяброўкі: Вера Запруднік, Раіса Станкевіч, сябры: Юрка Курыла, Альгерд Кажура й Вітаўт Тумаш (малодшы). У рэдакцыйную калегію былі выбраныя: на галоўнага рэдактара часапісу „Беларуская Моладзь" Раіса Станкевіч, у рэдкалегію на прапанову Р. Станкевіч былі выбраныя: Галіна Тумаш-Павэлыс, Натальля Русак, Вера Запруднік, Ліда Данілюк, Алеся Кіпель, Юрка Азарка, Багдан Андрусышын і Вітаўт Тумаш (малодшы).

У рэвізійную камісію былі выбраныя Ната Русак, Ліда Данілюк і Віктар Тур.

Быў прыняты плян працы на будучыню: выдаць заплянаваную раней кнігу пра дзейнасьць АБАМ, а таксама ўзмоцніць дзейнасьць у аддзелах ды, як асабліва важнае заданьне прыцягнуць у арганізацыю моладзь, якая да яе не належыць.

Заплянаваны шэраг мерапрыёмстваў дзеля пашырэньня дзейнасьці, як зладжаньне Народнага Фэстывалю Моладзі ўлетку 1982 году на Белэр-Менску дзеля здабыцьця фінансаў для танцавальнага гуртка АБАМ „Васілёк", які, каб далей удала працаваць, патрабуе грашовага падтрыманьня. Выдаткі мае не малыя: перахоўваньне ды набываньне новых народных касьцюмаў, кошты транспартацыі на пробы у Нью Ёрк (бальшыня ў гуртку зь Нью Джэрзі й ваколіцаў Нью Ёрку).

(Заканчэньне на 5-ай бач.)

BIEŁARUS

**Monthly. Published by the Byelorussian-American Association, Inc., P.O. Box 178, Jamaica, N. Y. 11431. Price per copy: $1.00, subscription $10.00 per year.**

## IMPORTANCE OF FOREIGN LANGUAGES FOR AMERICA

by
T. Edward Hollander
Chancellor of Higher Education
State of New Jersey

The dominance of the English language in the world has caused Americans to become highly insular in language, culture and understanding. As a result of British colonialism and American commercial leadership, English has come as close as any language ever has to a true lingua franca. It has official or semiofficial status for over one third of the world's population. Today, seventy-six percent of the secondary school students in the non-English-speaking world (excluding China) are engaged in the study of English. Half of the world's scientific research and a third of all books published in Asia and Africa are published in English.

As interest in English has grown, American interest in foreign language instruction and the study of other cultures has waned. Language enrollments dropped fifty percent in the seventies. Fellowship for language and are studies have declined by two thirds since 1970.

The period of decline that we now appear to be entering may well have been brought on by our failure to be well informed about global issues and about the impact of foreign cultures on their countries' decision-making processes. Our cultural ignorance partly explains our having backed a number of dictators who have since lost control in countries such as Iran. Finally, many nations feel that we are interested not in their welfare but in what we can sell them and how our interests are promoted by interacting with them.

This view of us is made more severe by our parochial attitude toward international business. While we are still conducting our affairs in English, the Europeans and the Japanese are conducting theirs in the language of the countries with whom they are dealing. There are signs that this trend will become standard procedure in some important areas of the world.

Beyond knowing the languages of the world, it is crucial that we understand the political systems and the cultures of our neighbors.

Higher education has a responsibility to rise to this challenge. Our colleges and universities may well be among the last institutions in our society to do so. Our institutions of higher learnng should enhance their capacity for teaching scholarship and research in other languages and cultures. A new emphasis on language studies is required, not only in literature but in a variety of other disciplines as well. Business, economics, the other social sciences, and technology are all areas that can be involved in language study. Language studies should extend to cultural area studies and should encompass a broad understanding of the society and all its institutional aspects.

New Jersey's proposed Statewide Plan for Higher Education (the master plan) calls on the state's senior colleges and universities to reexamine their curriculum requirements in order to evaluate whether to require competence in a foreign language for graduation, how best to offer students the opportunity to study another culture as part of the liberal arts curriculum, how best to introduce international aspects of each discipline into the curriculum, and whether to require foreign language study as a prerequisite for admission to college.

Finally, I would urge that our understanding and appreciation of other cultures and traditions contribute to our own understanding and appreciation of our differences within our society. As this country continues to grow more racially, ethnically, and culturally diverse, our ability to maintain national purpose for a diverse population may well depend on how well the next generation oi Americans can understand, respect, enjoy, and accept wide cultural differences among our population. A broader, more global, less ethnocentric program of study at our educational institutions will help all our citizens adopt a wider, more humane view of one another.

## DEMAND FOR BYELORUSSIAN LANGUAGE COURSES IN POLAND

The following is our translation of an appeal by "A Group of Members of the Byelorussian Social and Cultural Society in Bielastok" (Bialystok, in Polish) "To Byelorussian Parents." The appeal was published in "Byelorussian Documents. Book 1 — 1981," a samizdat publication in Poland (see, **Bielarus** #292). According to an earlier document from Poland (see, **Bielarus** #288), half of the population of the Bielastok region consists of Byelorussians. In all of Poland there are an estimated 200,000 to 300,000 Byelorussians, many of whom live in Western Poland.

TO BYELORUSSIAN PARENTS!

Express your demand for Byelorussian language courses for your children in the school of the Bielastok region!

The destiny of a people and the destiny of its language is one. When there is no language, there is no people. — Let us not forsake our language lest we die!

Our children are also the children of our spirit. Otherwise, we are not their parents. Our language in our homes unifies our family. The teaching of Byelorussian in the schools will give our children a consciousness of their history and their own dignity, not borrowed from others.

Those who do not hold their own values dear are incapable of appreciating other, non-Byelorussian values. One who is not a patriot cannot become an internationalist. No one has succeeded in being human by being silent. We must call ourselves Byelorussians before anything else.

In Bielastok, every fourth person comes from a Byelorussian-speaking family. In the schools of Bielastok there is no Byelorussian taught. This is our own fault. If we are not ourselves here, we will be nobody.

A human being begins with a word, with a language. Language defines what kind of person you are. Culture defines your nationality.

It is not enough to bear a child. The child has to be brought up. It should grow up as one of us—Byelorussian not only in body, but in spirit as well.

We wrong a child of ours when we deprive it of its native tongue. But we do this. Why?

A child of ours should not perceive itself as being on the other shore. Yet we send it to the other shore. Why?

A child of ours has the right to know its native roots, its spiritual homeland. It doesn't. Why?

But we do not live by bread alone. We also live by thoughts. What kind of thoughts? About what?

Te first thing a people should be concerned with, after bread, is teaching its children their native language and history. It is impossible for a people to exist without its own history.

We Byelorussians need the Byelorussian language in the schools, the schools of Bielastok. What impedes us from having it? Our feeling of inadequacy. Where did this come from? From a division into first- and second-class citizens. Whose idea was that? The idea of those who dream about easy living. Is it true that we Byelorussians are not worth anything? It is not true. Who profits from such a defamation of us? Sycophants and fools.

To those who have not ceased being Byelorussians: make every effort so guage so that we may be resurrected that your children know their lan- in their further lives. The future of our people lies in our children. It is they who will carry on in the world our dignity and our culture.

There is no pride without a price. If we want to be proud as Byelorussians we must achieve it.

We must fight for a place for the Byelorussian langauge in the schools of Bielastok! **A group of members of the Byelorussian Social and Cultural Society in Bielastok**

# V. BYKAU ON LITERATURE

Vasil Bykau, 57, is the most renowned Soviet Byelorussian writer living today (see, "Bykaw, Vasil" in **Encyclopedia of World Literature in the 20th Century**, vol. 1, New York: Frederick Ungar, 1981).

Fifteen years ago, at the Fifth Congress of the Byelorussian Writers' Union in Minsk Vasil Bykau, then under attack by the Soviet authorities for his novellas denouncing Stalinism, delivered a speech in defense of the right to depict life as seen by the writer. Bykau's speech has never been published in the Svoiet press. In the West only Russian and English versions have circulated, published in **Grani** (Frankfurt, W. Germany, 1966, No. 61) and in **Partisan Review** (Rutgers University, New Brunswick, N.J., 1972, v. 34, No. 2), respectively. We now have the stenographic record of his original speech, published in the first book of Byelorussian samizdat publication in Poland, **Bielaruskija Dakumenty.**

Following are some excerpts from Bykau's speech, even more pertinent today than in 1966 as far as Soviet literature is concerned. We have followed the **Partisan Review** translation, done quite adequately by Michael Glenny, with few corrections where warranted by the Byelorussian original.

***

The truth, however unpleasant, if put honestly and directly, canot harm what is good...

Undoubtedly it requires not only talent but courage to write the truth; but it also needs courage to accept the truth in its fullness and complexity. And here perhaps one should regretfully admit that there are times when certain of our leaders—those, in fact, who should possess this quality in greater measure than others—do not, to put it mildly, show up very well. Whilst paying lip service to the idea that criticism is the driving force of society, they nevertheless do their utmost to ensure that criticism proceeds in one direction only—from the top downward. (Applause) But where literature is concerned there are no such things as the top or the bottom. (Applause) Since literature is the science of man, it looks upon the milkmaid and the minister, the rank-and-file Party member and the Secretary of the Central Committee, with equal objectivity.

I would like to cite the authority of Belinsky:

**The stronger the man is, the greater his moral stature, the greater his ability to come to terms with his own failures and weaknesses. How much more does this apply to nations, whose age is not three score years and ten but whole centuries. A weak, insignificant or decrepit nation, which is so debilitated that it can progress no further, loves self-praise and above all dares not contemplate its own wounds: it knows that they are mortal, that there is no comfort to be had in facing reality and that self-deception is the only source of that false consolation to which the weak and the decrepit are so susceptible.**

Further, Belinsky writes:

**...A writer describes a drunkard in a story, and the reader says "How dare he bring shame on Russia by making out that we are nothing but drunkards?" Let us presume that the reader is an intelligent, even a highly intelligent person; even so, to draw this sort of conclusion from the story is ridiculous.**

Obviously not much has changed since 1847, when those words were written: exactly the same charges are being leveled against literature to this day. A writer only has to depict a slightly unpleasant general for there to be an instant chorus of protest against this understanding of the prestige of the Soviet officer corps; one only needs to create a negative character who happens to be a railmayman, and at once there will be an outcry against this slander on the glorious corps of Soviet railwaymen. And this is in the press, in official organs of our authorities! Here is a reason to howl loudly and despairingly. Obscurantism, growing out of the offended honor of the uniform has recently taken on a threatening character. I could cite some eloquent exampsel from my own experience, or from the experience of Alexei Karpiuk, who is known to us all. For his naive attempt to write a truthful account of his, in my view, blameless and heroic life, he has had to pay a heavy price and will doubtless continue to pay it.

Writing a good book is a hard job in every way; but getting it published is even harder. The fact is that in this country the only works which are easy to have published are mediocre ones, books which have nothing to say and which are exactly like the hundreds of previous ones already approved by critics and publishers. Anything which does not exactly conform to official canons is greeted with suspicion and inevitably meets great resistance from all quarters. In practice the author is faced with the dilemma: either he must accept the publisher's demands or his book will never see the light of the day. Often in the published version little remains of the author's original conception. To me, this inbuilt, legitimized mistrust of talent is something amazing and incomprehensible; indeed, I believe it to be an absolute disgrace, and what is more it is fatal to literature. (Applause)

And yet—we must keep on and work. We are on the threshold of a great date in our history. We have plenty to write about and talent should never shirk its responsibility. Literature did not start yesterday and will not end tomorrow. There is more to Byelorussian literature than what appears under the imprint of the state publishing house.

In conclusion, I should like to say that despite the somewhat gloomy thoughts that I have expressed, I believe in the creative power of our literature, just as I believe in the reasonableness, common sense and goodwill of those responsible for guiding it. I should also like to take this opportunity of thanking the many writers who, before this congress, gave such eloquent proof of their civic courage and professional solidarity in reacting to a certain attack that was directed against me. So long as the writers are united on such vital matters and are prepared to declare ourselves openly, the Byelorussian people may rest assured about the future destiny of its literature.

## STUDENTS FACE OFFICIAL BARRIERS

The **Times** of London (Higher Education Supplement, Sept. 25, 1981) reported as follows:

"Students from three of minority races — Byelorussians, Ukrainians and Lithuanians — have set up a special coordinating commission to press for legal registration of their new student associations. This follows a second refusal by the Minister of Science, Higher Education and Technology, to grant them recognition. Attempts by the students to publicize their case in **Tygodnik Solidarnosc**, the weekly newspaper of Solidarity were blocked by the censorship.

The cultural identity of Poland's ethnic minorities has been under considerable pressure during the last decade. In 1976, the Plenum of the Central Committee of the ruling Polish United Workers' Party adopted a special resolution that Poland should be developed as an "ethnically homogeneous state".

Already, however, the future of the minorities was under threat from the educational reforms of 1971, which modified the regulations giving freedom of choice in the study of the mothertongue. The reform of the school structure wiped out almost all available courses in minority languages.

At the same time, a number of cultural institutions were closed down. In 1971, the Byelorussians lost their "Lavonicha" stage group (the main showcase for their song, dance and drama), and a few years later the Byelorussian ethnic museum in Bialowieza was closed and its exhibits transferred to a general museum in Ciechanowiec.

The climate of "renewal" in Poland has led to a campaign for the redress of such grievances. Among the students, the first to demand their own association were the Lithuanians, who established their Union of Lithuanian Students on February 20 — immediately after the signing of the Lodz Accords had legalized the new Polish Independent Students' Association (NZS).

This was followed on May 1, by the Association of Ukrainian Students, and on May 30 by the Byelorussian Association of Students. The formation of these groups was warmly welcomed by the NZS, which, following the lead of Solidarity opposed the concept of an "ethnically homogeneous" Poland.

From the official side, there seems to be no objection to an ethnic students association as such. While the Byelorussians, Lithuanians and Ukrainians were engaged in negotiations with successive Ministers of Science, Higher Education and Technology, Poland's tiny community of African Students got its union registered without difficulty."

## APPEAL

**to students of Byelorussian nationality in Poland**

On May 30, 1981, the Byelorussian Student Union was established in Poland. A petition enclosing the statute and list of the Union's founding members will be submitted to the Ministry of Science, Higher Schools, and Technology in the first half of June for the purpose of obtaining legal status for our Union.

The doal of the Union is to disseminate Byelorussian culture among students as well as studies and popularization of the traditions of our forebears. We students wish to call particular attention to the question of Byelorusia's history as well as the preservation from oblivion of our native folklore and language. Our intention is to bring this about through scholarly meetings, the construction in Bielavieza of a Byelorussian ethnographic museum and by a wide program of local and ethnic studies.

At the initial stage of its activity the Union must, first of all, integrate all students of Byelorussian nationality. Therefore, we call on all those interested to take part in our activities.

The founding committee:

Vala Aniščuk, freshman in journalism, Warsaw University (WU);

Hanna Sarokin, freshman, Main School of Agriculture;

Jan Maksymiuk, senior in physics, WU;

Uladzimier Piunik, junior in physics, WU;

Barys Kierdašuk, assistant, WU;

Jauhien Ryžyk, junior in geography, WU;

Siarhiej Martynovic, sophomore in Byelorussian philology, WU;

Jan Havorka, junior in transportation, Warsaw Polytechnic;

On June 3, 1981, the Founding Committee was formed in Bielastok with the following membership:

Sciapan Bazyluk, freshman, Bielastok Polytechnic;

Valancin Lapcieu, junior, Bielastok Polytechnic;

Tamara Vasileuskaja, sophomore, Medical Academy;

Viera Hapaniuk, junior in stematology, Medical Academy.

Addresses of the committees:

Warsaw — Senatorska (BHKT), tel. 260-286.

Bielastok — Zwierzyniecka 6, bursa "Delta", pakoj 709, S. Bazyluk.

**(From "Byelorussian Documents", № 1 — 1981)**

## LET'S GET TOGETHER!

"Why don't we, the Byelo-American college graduates, get together?" said Lonia Noryk as we sat at the table in his hospitable home in Connecticut last October. He and his wife Kinusia and their old friends from New York were chatting about current events and problems in the Byelorussian-American community. Indeed, why not?

Upon reflection, however, everybody agreed that a lot of effort would be needed to see this idea through.

Well, here is one possibility to consider.

In 1982, on the Labor Day weekend, the Fifteenth Convention of Byelorussians of North America will take place —probably in Washington, D.C.—to mark the Centennial of the birth of Janka Kupala and Jakub Kolas, the two giants of modern Byelorussian literature.

At the present stage, the agenda of the two-day convention is flexible enough to make room within it for a Byelo-American alumni reunion. Why don't we continue publicly hammering away at the idea? Maybe some concrete plans can be developed.

What do you think? Write to **Bielarus**. The newspaper will gladly pass your suggestions on to its readers. There are many alumni among them. Your views may encourage others to think and to act. Let's keep the ball rolling!

Those who discuss together get together.

**Janka Zaprudnik,**
**New York University alumnus**